


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

15 чэрвеня 2001 года

№ 24 (321)

Выходзіць па пятніцах

TV плюс

## Навіны рэгіёна

### Ініцыятыва знізу

**АШМЯНЫ.** Загадчык аддзела арганізацыйна-кадравай работы райвыканкома **Валерый Сайко** разам з галоўным урачом райбальніцы **Уладзімірам Макарэвічам** наведалі вёску Мураваная Ашмянка. Калгаснікі, медыкі і настаўнікі сабралі подпісы за вылучэнне настаўніцы **Марыі Матвейкі** ў раённую камісію па выбарах прэзідэнта.

В. Сайко сказаў калгаснікам, што, калі не адклічуць сваіх подпісаў, іх могуць нават выгнаць з калгаса. А ў мясцовай бальніцы пабываў У. Макарэвіч.

Частка людзей адклікала свае подпісы. Аднак не адступіліся школьныя настаўнікі. Як паведаміў для «Радыё Рацыі» прадстаўнік БХК **Пётр Явідовіч**, М. Матвейка мае намер падаць у суд на раённых чыноўнікаў.

**Міхаіл КАРНЕВІЧ.**

### Школа лідэра

**МЯДЗЕЛ.** У Нацыянальным дзіцячым аздараўленчым летніку "Зубраня" пачала працаваць "Школа лідэра". Сабралася 180 прадстаўнікоў розных дзіцячых арганізацый з усёй Беларусі. У асноўным, гэта вучні 10-х класаў. Яны атрымаюць неабходныя веды для кіраўніцтва дзіцячымі арганізацыямі. З гэтых прадстаўнікоў і будзе выбраны лідэр тысячагоддзя.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Вілейка працягвае «акупацыю»

**ВІЛЕЙКА.** Слесар МПМК-185 **Сяргей Кузняцоў** за апошнія 2 гады стаў пятым віляйчанінам, якому пашчасціла пабываць на "Полі цудаў". Ад пачатку гульні Сяргей ведаў, што на табло зашыфраванае слова "кумыс", але палічыў за лепшае набраць паболей ачкоў. Лёс, які доўга выпрабоўваў наш зямляк, адвярнуўся ад яго. Правільнае слова давялося назваць наступнаму гульцу. Дадому Сяргей вярнуўся толькі з відэамагнітафонам.

**Таццяна ХАРЛІНСКАЯ.**

### У Смаргоні добрыя камунальнікі

**СМАРГОНЬ.** У рэспубліканскіх спаборніцтвах жыллёва-камунальных гаспадарак смаргонскі ЖЭС №1 заняў II месца. У Гродзенскай вобласці ён лепшы.

92 работнікі жыллёва-камунальнай гаспадаркі ўжо 15 год абслугоўваюць Усходні мікрараён Смаргоні. Гэта 91 шматпавярховы дом ці 3390 кватэр. Тут жывуць 9846 чалавек.

**Павел МАКЛЮК.**



## Надвор'е на выхадныя

**Субота, 16 чэрвеня**

**Мінск**
9 – 11°С (уначы)
18 – 19°С (удзень)



**Вільня**
10°С (уначы)
19°С (удзень)



**Нядзеля, 17 чэрвеня**

**Мінск**
10 – 12°С (уначы)
19 – 22°С (удзень)



**Вільня**
12°С (уначы)
21°С (удзень)



# Фестываль «Маладзечна-2001»



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

Першыя імгненні перамогі: толькі што Дзмітрыя Качароўскага назвалі ўладальнікам аўтамабіля ВАЗ – галоўнага прыза фестывалю «Маладзечна-2001».

Працяг тэмы – на 2-й стар.

# Рыцарскі турнір у Мядзеле



Паненкі сэрца хвалюцца за сваіх рыцараў.



Моманты баёў.

Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

**МЯДЗЕЛ. Першы Нацыянальны рыцарскі турнір «Меч Гедыміна» стаў гісторыяй. Прадстаўнікі 24 рыцарскіх клубаў з усіх рэгіёнаў краіны выявілі лепшых байцоў па сярэднявечным фехтаванні. Спаборніцтвы прайшлі ў трох катэгорыях: ранняга, развітога і позняга сярэднявечча.**

Акрамя рыцарскіх баёў, былі спаборніцтвы па стральбе з лука і арбалета. Паядынкі адбываліся на Рыцарскім Рысталішчы, што пабудавалі на гарадскім стадыёне. Сюды з паўвострава Замак па меркаваннях бяспекі перанеслі падзеі турніру. Хаця на Замку праводзіць было б натуральней: гістарычнае месца.

У першы дзень сапраўднага свята не атрымалася. Вядома, замінаў дождж (праўда, рыцары і пад ім працягвалі барацьбу), былі праблемы з гукам. На другі дзень усё было нашмат лепш. У якасці суддзяў запрасілі вельмі паважаных у рыцарскім асяродку майстроў з Расіі і Украіны – каб былі нейтральныя да ўсіх удзельнікаў. Барон **Рычард Токайрыш** прыехаў з Масквы:

– У мяне шмат сяброў у Мінску. Яны і запрасілі сюды. Мае абавязкі – глядзець за выкананнем правілаў турніру, выяўляць пераможцаў.

– Паядынкі вядуцца ў трох намінацыях. А чым яны адрозніваюцца – толькі эпохамі?

– Ну, яшчэ і крыху рознымі правіламі баёў, умовамі правядзення паядынку, зонамі паражэння.

– І як вам падаліся беларускія байцы?

– Паступова расце якасць баёў – шмат было цікавых паядынкаў, ды і даспехі добрыя.

Да судзейства спрычыніліся і Цудоўныя Паненкі – з іх выбралі Суд Прыгажосці, які ацэньваў, наколькі высакародна паводзіў сябе прэтэндэнт на перамогу.

Пераможцам у намінацыях уручаліся клінкі і сярэбраныя пярсцёнкі з пазалотай. Там і гравіроўка ёсць. Прэстыжная узнагарода – толькі тры такіх існуе.

Цікавыя былі імёны, якія бяруць сабе рыцары. Адчуйце па некалькіх пераможцах: **Брытаэль, Роланд Мак Гір, Хлодвіг Лангобарскі**. І гэта яшчэ не самыя арыгінальныя. Як вам такое: Юсуф Чынгіз (клуб «Алтын тумен» з Мінска. Там займаюцца рэканструкцыяй татарамангольскіх даспехаў. Сцвярджаюць, заняліся гэтым, каб быць арыгінальнымі: у Беларусі больш такога няма).

Заканчэнне на 2-й стар.

 



■ ФЕСТЫВАЛІ

# «Маладзечна-2001»

**МАЛАДЗЕЧНА. Адноўлены фестываль беларускай песні і паэзіі арганізатары наперад вызначылі, як прынцыпова адрозны ад мінулых. Па першым уражанні, «новаўвядзенні» папулярызацыі мерапрыемства не спрыялі.**

Упершыню не праводзіўся конкурс маладых выканаўцаў эстраднай песні. Гледачам толькі прадставілі 25 новых імёнаў у канцэрце «Зорнае купалле – з новымі імёнамі ў XXI стагоддзе!» Галоўнай узнагародай канцэрта мусіў стаць прыз глядацкіх сімпатый. Але вось ці гледачы яго прысуджалі? У журы, прынамсі, надта вядомых імёнаў не было. А ключы ад новенькага аўтамабіля старшыня Маладзечанскага гарвыканкома **Мікалай Чурсін** перадаў **Дзмітрыю Качароўскаму**. «Калегі» абсалютна шчыра павіншавалі спевака з цалкам заслужанай перамогай.

Па сёння спрэчнай выглядае думка перанесці фестываль з гарадскога стадыёна на Цэнтральную плошчу. Натуральна, асфальт больш прыстасаваны пад таптанне яго тысячамі гледачоў, чым газон футбольнага поля. Аднак абмяжоўваць колькасць «седакоў» некалькімі дзесяткамі свежассечаных лавак (коштам у 1 тысячу рублёў за месца) таксама наўрад ці аптымальна. За што і «прагаласавалі» маладзечанцы: нават у другі дзень фестывалю можна было без праблемаў падысці да бар'ераў і назіраць за выступленнямі без усялякай аплаты. Урэшце, гэта зразумелі арганізатары: міліцыянеры пачалі запрашаць усіх жадаючых бясплатна пасядзець на тых лаўках. Адкуль, дарэчы, не надта што і відаць было.

Дадайце сюды далёка не самы лепшы гук і вы зразумееце, чаму на трэці дзень гледачы практычна не зважалі на спевы маладых выканаўцаў. Але былі занепакоеныя купляннем шашлыкоў і шпацырамі вакол ды каля плошчы. Нармальна пачуць спевакоў, зрэшты, можна было хіба толькі па тэлевізары.

Як толькі крыху сцямнела, шматлікія купкі-кампаніі спакойна размясціліся на пустцы ля плошчы. Проста на траве раскладвалі немудрагелістую закусь, тут жа з'яўлялася гарэлка. Песні, падтанцоўванне ля сцэны многіх не цікавілі.

Пра спіртное заўважу асобна. У пятніцу, як і было абвешчана наперад, у раёне Цэнтральнай плошчы нават піва не прадавалі. У суботу сітуацыя змянілася кардынальна. Юнакі і нават дзяўчаты з адкаркаванай бутэлькай піва ў руцэ ўспрымаліся як нешта само сабой зразумелае. У нядзелю пакланенне Бахусу дасягнула апагею: на кожным кроку трапляліся п'яныя. Было ўражанне, што многія прыйшлі на свята, каб выпіць-закусіць.

Застаецца толькі прыгадваць першыя фестывалі -93 і -94, калі былі створаныя ўсе ўмовы для работы прэсы. Тады аднолькава ўтульна пачувалі сябе ў Маладзечне мясцовыя і сталічныя газетчыкі, радысты і тэлевізійшчыкі, шматлікія аматары аўтографаў і відэаздымак. Адпаведна і артысты разам з паэтамі, кампазітарамі ахвотна «ішлі ў народ». У горадзе добра ведалі многіх. Прыкладам, **Аляксандр Саладуха** стаў тут ці не сваім. Нават чуткі пайшлі, што яму горад кватэру падарыў.

Завяршыўся фестываль святочным феерверкам. Відовішча, лічу, было ўражвальнае. Хаця і тут знайшліся незадаволеныя.

За тры дні ніхто, на жаль, не прыгадаў, што фестываль бярэ свой пачатак ад часоў кіравання горадам **Генадзем Карпенкам**. З падачы цяперашніх уладных структур гэтага палітыка нібы і не існавала. Прапановы прысвоіць гарадскому стадыёну яго імя, праводзіць штогадовы юнацкі футбольны турнір на прызы Генадзя Карпенкі згадваюцца цяпер, як горкая іронія.

Фестываль, як заўсёды, нарадзіў шмат чутак. Калі адныя віталі ягонае вяртанне, то іншыя крытыкавалі за адцягненне грошай (хаця і запэўнілі маладзечанцаў, нібы для іх мерапрыемства не будзе каштаваць ні рубля). Але відавочна, што горад мае патрэбу ў свяце. А крытыка прагучала з тым, каб становішча паляпшалася, а не прыходзілі справы фестывальныя ў заняпад.

**Сямён РАБІНОВІЧ.**



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

Яркай старонкай фестывалю стала выступленне дзяцей у суправаджэнні аркестра маэстра Фінберга. Момант рэпетыцыі.



Уладзімір Мулявін са сваімі старымі-новымі «Песнярамі» спрабуе другі раз увайсці ў адну і тую ж рэчку. Прынамсі, аўтографы ў яго просяць па-ранейшаму.



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

Цэнтральная плошча Маладзечна выглядала вельмі някепска.



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

Гурт «Kriwi» выступаў разняволена і прыгожа.



Канцэртная «зона» часам поўнасцю не запаўнялася. Гледачы аддавалі перавагу волі.

## Кінатэатр «Радзіма»

**Вялікая зала, чэрвень**

15 – 17 **"Шакалад"**, ЗША-Францыя, рамантыч. камедыя 19-20, 22-00 (15 чэрвеня) 15-00, 19-20, 22-00 (16–17 чэрвеня)

15 – 17 **"Гераіні"**, Францыя, меладрама 17-10

18 – 24 **"Дар – уладар звяроў"**, ЗША-Канада, прыгодніцкая камедыя 17-30

**"Крутыя віражы"**, ЗША 20-00, 22-10

**Для дзяцей**

15 – **"Піраты ў часе"** 10-00, 12-00

16 – **"Тарзан"** 13-00

17 – **Мультзборнік №121** 13-00

18 – **"Зладзюжкі"** 10-00, 12-00

19 – **"Лапы"** 10-00, 12-00

20 – **"Галгамет"** 10-00, 12-00

21 – **"Прыгоды Пятрова і Васечкіна"** 10-00, 12-00

■ ІМЯНІНЫ

**15 чэрвеня**

**Праваслаўныя**: Ульяны, Івана, Нікіфара.

**Каталіцкія**: Іаланты, Віта.

**16 чэрвеня**

**Праваслаўныя**: Паўлы, Дзмітрыя, Дзяніса, Іпата, Лук'яна, Паўла, Юльяна.

**Каталіцкія**: Аліны, Юстыны.

**17 чэрвеня**

**Праваслаўныя**: Марфы, Фядоссі, Засімы, Мяфодзія, Мітрафана, Севярына.

**Каталіцкія**: Лауры, Адольфа.

**18 чэрвеня**

**Праваслаўныя**: Апалона, Дарафея, Ігара, Іоны, Канстанціна, Леаніда, Нікандра, Фёдара.

**Каталіцкія**: Альжбеты, Марка.

**19 чэрвеня**

**Праваслаўныя**: Фёклы, Іларыёна, Іоны.

**Каталіцкія**: Гервасія, Пратаса, Рамуальда.

**20 чэрвеня**

**Праваслаўныя**: Валерыі, Антаніна, Багдана, Кірыка, Клаўдзія, Маркела, Фядота.

**Каталіцкія**: Богны, Фларанціны.

**21 чэрвеня**

**Праваслаўныя**: Васіля, Вісарыёна, Засімы, Канстанціна, Фёдара, Яфрэма.

**Каталіцкія**: Аліцыі, Марты, Алоіза.

# Рыцарскі турнір у Мядзеле

**Заканчэнне.**
**Пачатак на 1-й стар.**

Былі няхай і старадаўнія, але больш звыклыя для нашага вуха імёны: **Міраслаў, Вячка, Лютавер, Грынгард, Ваўкалак**. Гэта хлопцы з пінскага клуба «Радагаст». Арганізавалі яго 3 гады таму, на той час было пяць удзельнікаў, цяпер – больш за трыццаць.

– Мы займаемся толькі нашай беларускай гісторыяй – ніякія замежныя ордэны нас не цікавяць, – гавораць хлопцы.

– Вось вы займаецеся эпохай Вялікага Княства Літоўскага. А ёсць жа клубы, якія ўзнаўляюць традыцыі крыжакоў. Якія ў вас з імі стасункі?

– Гэта нашы ідэалагічныя праціўнікі. Не, у жыцці яны хлопцы добрыя, але ў бойцы ім лепей нам не трапляцца.

Стралок **Альгерд**, у сваім строі ці то пажа, ці рыцара XV стагоддзя, пэўна, быў самым малодшым ўдзельнікам турніру. Займаецца ён у рыцарскай школе ў пані **Арыны** (сталічны клуб «Рыцары Вялікага Княства»).

Рыцараў рыхтуюць тут сур'ёзна. Першы год дзеці займаюцца толькі тэарэтычна і ў настольных гульнях. На другі год яны далучаюцца да паездак, могуць мець строй лучніка, пажа ў свіце. А ўжо ва ўзросце 13–14 год становяцца зброеносцамі, дапамагаюць рыцарам апрануць, перанесці даспехі.

Рыцарам можна стаць у 18–20 год. Для гэтага трэба шмат чаго ведаць і магчы, быць моцным, вынослівым і абавязкова высакародным.

Хацеў распытаць аднаго з рыцараў. А ён у адказ нешта мыкае, паказвае рукамі на рот – незразумела. Толькі потым высветлілася, у чым справа. Рыцар **Данквард** два тыдні таму даў зарок маўчаць, пакуль не пераможа ў паядынку. І вось ён перамог (праўда, не зусім высакародна: не дазволіў падняць саперніку меч) і загаварыў.

– Як вам пасля двухтыднёвага маўчання?

– Цяжка гаварыць стала – стамляюся.

– А як з людзьмі кантактавалі?

– Мовай жэстаў, часам штосьці мыкаў – мяне перакладалі. Ну, а калі трэба было растлумачыць нешта сур'ёзнае, пісаў на паперы. На турніры ў мяне была роля вельмі благога хлопца – здаецца, яна атрымалася.

Адбыўся ў Мядзеле канцэрт сярэднявечнай і фальклорнай музыкі. Прыехала нават група з Латвіі – «Auri». З-за праблемаў на мяжы дабіраліся яны да Мядзела ажно 12 гадзін. Увечары ў суботу быў у Мядзеле і нішто сабе салют.

На прэс-канферэнцыі задавалі журналісты пытанні наконт тых клубаў, якія адмовіліся ўзяць удзел у турніры. Такіх аказалася нашмат менш, чым раней паведамлялася ў СМІ. Некаторыя з "адмаўлянтаў" нават і не ведалі, што іх подпіс значыцца пад адпаведным лістом.

Кіраўнік Мінскай Уніі «Меч и ворон» сэр **Генрых Рандэнгоф** лічыць:

– Гэта невысакародна – ладзіць «разборкі» з дапамогай прэсы. Калі ёсць якія непаразуменні, то іх трэба высвятляць у паядынку.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Год таму, 7 ліпеня 2000 г. знік наш калега, вядомы тэлеаператар

**Дзмітрый Завадскі**

**Ён здымаў у Чачні, але быў захоплены ў Беларусі. За што? Дзе зараз Дзмітрый Завадскі? Хто менавіта так выкарыстаў ужо год жыцця Дзімы і яго сям'і?**

***Беларуская Асацыяцыя Журналістаў патрабуе праўды пра лёс калегі!***

■ ДНІ



15 чэрвеня – **170 год з дня нараджэння В. Каратынскага** (1831–1891), беларускага і польскага паэта і журналіста.

21 чэрвеня – **260 год з дня нараджэння Жана Эмануэля Жылібера** (1741–1814), французскага хірурга, заснавальніка медыцынскай школы ў Гародні.

■ КАМУНАЛЬНАЕ АБСЛУГОЎВАННЕ

# Парадак працей наводзіць у адной хаце

**МАЛАДЗЕЧНА. Амаль 18 год праіснавала ў горадзе сістэма "Камунальнік", у якую ўваходзіла 15 арганізацый.**



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

**Начальнік «Домакіраўніцтва №1» Яўген Чаеўскі.**

Але па ініцыятыве Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі 1 красавіка 1999 года ЖРЭУ-1 выйшла з гэтай сістэмы, стала самастойнай установай. Узначальвае былое ЖРЭУ-1 **Яўген Чаеўскі**. 6 год ён адпрацаваў начальнікам участка на заводзе парашковай металургіі. 14 год таму перайшоў у сістэму камунальнага абслугоўвання. Цяпер былое ЖРЭУ носіць назву гарадское унітарнае прадпрыемства "Домакіраўніцтва №1".

Першаму дамакіраўніцтву "належаць" 143 дамы. Большасць іх старога ўзору. Найстарэйшы пабудавалі ў 1921 годзе, а самы малады – у 1999.

Яму выдзяляюць датацыі. Па магчымасці, зарабляюць грошы самі. Гаспадарка мае ўласную тэхніку: трактар, грузавы і легкавы аўтамабілі. Ёсць свая камп'ютэрная сетка, нават большая, чым у "Камунальніка", ксеракс, у планах – набыццё факса.

Створаная ўласная дзяжурная сетка, якую абслугоўваюць 2 сантэхнікі з 17-00 да 24-30. Гэта вельмі зручна для жыхароў.

Шмат ў домакіраўніцтва нябачнай, на першы погляд, для іх падапечных работы: замена замкоў у пад'ездах, рамонт дзвярэй, падвалаў, афарбоўка лавак, догляд за дзіцячымі прыстасаваннямі ў дварах і інщае.

На гэта выдаткоўваюцца вялікія сродкі. Сярэдняя ж заработная плата супрацоўнікаў домакіраўніцтва складае 85000 рублёў. Выплачваецца яна, праўда, без затрымак.

Нестае домакіраўніцтву фінансаў. Ёсць, на жаль, і так званыя планавыя страты. Сярод жыхароў шмат (каля 11%) неплацельшчыкаў. "Лідэр" па запазычанасці павінен заплаціць 80000 рублёў.

Шмат грошай домакіраўніцтва страчвае на пені (дзесьці 400–500 тысяч рублёў). Таму ёсць ідэя спрасціць гэтую сістэму.

У планах – намер правесці для жыхароў кабельнае тэлебачанне. Ужо выбранае для гэтага памяшканне.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ВІЗІТЫ

## Навумаў абяцаў адрамантаваць будынак

**АСТРАВЕЦ. Для супрацоўнікаў мясцовай міліцыі мінулы панядзелак аказаўся напружаным.**

Другі раз за гісторыю існавання аддзела яго наведаў міністр унутраных спраў **Уладзімір Навумаў**. Першым быў яго папярэднік **Юрый Сівакоў**.

Міністр наведаў будоўлю адміністрацыйнага будынка райаддзела і паабяцаў дпамагчы завяршыць гэты даўгабуд. Не выключана таксама, што ў Астравецкім раёне будзе ўведзена дадаткова тры штатныя адзінкі ўчастковых інспектараў.

Акрамя Астраўца, Навумаў пабываў у суседніх Ашмянах і Смаргоні.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

■ ЛЕТА

## Дзеці з Калінкавічаў на Нарачы

**МЯДЗЕЛ. У райцэнтры прымаюць на аздараўленне дзяцей з Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці.**

Цяпер адшукваюцца сем'і, якія змогуць прыняць дзяцей на 3–4 тыдні. На кожнага госця будзе выплачвацца дапамога ў памеры 50000 рублёў. Папраўіць сваё здароўе змогуць 50 дзяцей з Калінкавічаў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Праблемы – грошы і надвор'е

**АСТРАВЕЦ. Больш за 150 хлопчыкаў і дзяўчынак змогуць адпачыць у чэрвені ў летніку "Ластаўка". Усяго плануецца тут правесці чатыры змены. Не выключана, што на апошнюю прыедуць дзеці з Гомельскай вобласці.**

Старшыня райкома прафсаюзаў работнікаў сельскай гаспадаркі **Яўген Строк** зазначыў, што напачатку адкрыцця летніка давялося сутыкнуцца з дзвюма праблемамі. Першая тычыцца аплаты адпачынку дзяцей работнікаў калгасаў, бо практычна ўсе гаспадаркі пакуль грошай за адпачынак не пералічылі. Выправіць становішча абяцала раённае кіраўніцтва, якое з бюджэту пералічыць грошы, каб не сапсаваць настрой дзятве. Другая праблема, сур'ёзна зазначыў Яўген Яўгенавіч, тычыцца надвор'я, бо практычна з першага дня змены ідуць дажджы, якія асаблівай радасці не прыносяць.

Яшчэ адзін летнік неўзабаве адкрыецца ў Міхалішках на базе тамтэйшай участковай бальніцы. Туды на адпачынак паедуць дзеці з аслабленым здароўем.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Летні адпачынак для дзяцей

**СМАРГОНЬ. Райвыканком прыняў рашэнне аб арганізацыі летняга адпачынку для дзяцей.**

З 11 чэрвеня дзейнічае летнік прафсаюза аграпрама ў вёсцы Жодзішкі; тут за 4 змены павінны адпачыць 700 дзяцей.

З канца мая на базе пазашкольных устаноў, сярэдніх і базавых школ і за кошт сродкаў абласнога ўпраўлення рэспубліканскага цэнтра па аздараўленні і санаторна-курортным лячэнні насельніцтва арганізаваны адпачынак для дзяцей на 2333 месцы.

З 18 чэрвеня плануецца арганізацыя работы турысцка-краязнаўчага летніка з круглаcутачным знаходжаннем ў 2 змены на 195 чалавек у форме паходаў, экскурсій па маршрутах Беларусі. На базе ДЮСШ-1 арганізаваны спартыўны летнік у 3 змены на 150 месцаў з круглаcутачным знаходжаннем.

Для сем'яў перасяленцаў з чарнобыльскай зоны з 19 чэрвеня ў санаторыі-прафілакторыі "Залессе" арганізаваныя 2 змены па 35 чалавек, а ў Дзіцячым рэабілітацыйным цэнтры "Лясная паляна" у вёсцы Жодзішкі 1 змена на 30 чалавек.

**Мікіта ЛІСТАПАД.**

■ ТУРЫЗМ

# Маршрут выхаднога дня

**Ад Чырвонага Беражка да «Ляснога гарадка» і чыгуначнага прыпынку Даманава**

**МАЛАДЗЕЧНА. У гэтую пару многія школьнікі з настаўнікамі плануюць невялікія, на 1–3 дні, паходы. Турклуб "Пілігрым" прапануе маршрут, прымальны для школьнікаў 1–7 класаў.**




Пачынаецца ён з чыгуначнага прыпынку "Чырвоны Беражок". Даехаць да яго можна ўсяго за паўгадзіны, калі сесці на прыгарадны цягнік "Маладзечна-Полацк" у 8-30 раніцы (5 пуць).

У Чырвоным Беражку мы раім прайсці метраў 200–300 на ўсход. У маленькім сасняччку (20 на 20 метраў) каля прыгожага роўнага дуба на брацкай магіле салдатаў першай сусветнай вайны стаіць крыж. Яго ўстанавілі выхаванцы **Аляксандра Міцюры** з клуба "Ладдзя", турысты клуба "Пілігрым" і скаўты Маладзечна ў 1999 годзе.

«Тут пахавана 27 чалавек ніжніх чыноў», – расказваў **Сафрон Дубовік**. У 1915 яму было дзевяць год.

Затым перайдзіце Вілію па чыгуначным мосце на левы бераг і каля 2 кіламетраў ідзіце да аўтамабільнага маста. На беразе ёсць сцяжынка, якая месцамі і знікае. Магчымыя забалочаныя ўчасткі. Ад маста не трэба выходзіць на бераг Віліі, а рухайцеся полем. Справа застаюцца кусты, а злева старыца, з якой у Вілію выцякае невялікі ручаёк. Яго можна перайсці ці ўброд, ці па кладачцы з жэрдак.

Затым каля 1–2 кіламетраў ідзем полем. Зрэдку растуць дубы, каля ракі і старыц – кусты. Некалькі разоў давядзецца перапраўляцца ўброд праз ручайкі і канал (глыбіня 30 см). Хаця папярэджу, што глыбіня і шырыня ручаёў з года на год не прыходзіцца. Яшчэ 1–2 км – і падыходзім да летніка "Лясны гарадок". Прыблізна за 400 м да яго, на схіле, ёсць цудоўная крынічка. Недалёка ад крынічкі варта зрабіць вялікі абедзенны прывал. Месца гэтае даўно аблюбаванае маладзечанцамі для адпачынку.

Пасля абеду выходзім на асфальтавую дарогу і 1 км ідзем да дарогі Маладзечна–Вілейка на аўтобусны прыпынак "Даманава". Асцярожна пераходзім шашу і лясной дарогай, якая пятляе, але асноўны напрамак на ўсход, падыходзім да чыгуначнага прыпынку "Даманаўскі" і ў 17-10 садзімся на прыгарадны цягнік Полацк–Маладзечна. У 17-40 мы ўжо на чыгуначным вакзале ў Маладзечне.

Гэты маршрут працягласцю каля 8–10 км можна прайсці за дзень, а можна і за 2–3, калі зрабіць начлег каля летніка "Лясны гарадок". У добры шлях.

**Сяргей БЯЛКОЎ,**
**дырэктар турклуба «Пілігрым».**

## Курсы валют НБ РБ

| | 7 чэрвеня | 14 чэрвеня |
|---|---|---|
| Долар | 1373,00 руб. | **1375,00** руб. |
| Нямецкая марка | 599,97 руб. | **600,49** руб. |
| Літ | 343,26 руб. | **343,84** руб. |
| Расійскі рубель | 47,08 руб. | **47,21** руб. |
| Злоты | 345,50 руб. | **348,72** руб. |
| ЕЎРА | 1173,43 руб. | **1174,46** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1380 – 1400 руб. | **1390 – 1410** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 6.06 | 13.06 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2280 | 2280 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 6435 | 7690 |
| Сасіскі, 1 кг | 2550 | 2550 |
| Селядзец, 1 кг | 1580 | 1650 |
| Рыс, 1 кг | 550 | 530 |
| Грэчка, 1 кг | 460 | 440 |
| Цукар, 1 кг | 575 | 585 |
| Алей, 1 л | 830 | 850 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 680 | 680 |
| Маянэз, 200 г | 260 | 260 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1500 | 1500 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 460 | 450 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 370 | 380 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 450 | 700 |
| Капуста, 1 кг | 900 | 700 |
| Агуркі, 1 кг | 800 | 700 |
| Лімоны, 1 кг | 1400 | 1450 |
| Апельсіны, 1 кг | 1200 | 1200 |
| Чарэшня, 1 кг | 1300 | 2000 |
| Клубніцы, 1 кг | | 1500 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1000 | 1000 |
| Масла, 1 кг | 2000 | 2200 |
| Тварог, 1 кг | 800 | 700 |
| Малако, 1,5 л | 350 | 350 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 950 | 900 |
| Бульба, вялікае вядро | 600 | 650 |
| Морква, 1 кг | 1000 | 1000 |
| Яблыкі, 1 кг | 750 | 750 |
| Цыбуля зялёная, 1 пучок | 200 | 150 |
| Радыс, 1 пучок | 200 | 250 |
| Кроп, 1 пучок | 100 | 50 |

## Хмары над хлебазаводам

**МАЛАДЗЕЧНА. Жыхары Беразінскага збіраюць подпісы за тое, каб ім не завозілі хлеб з Радашковічаў. Ён, на іх погляд, не падыходзіць да ўжывання.**

Нараканні на якасць хлеба ёсць у многіх вёсках раёна. На мінулай сесіі райсавета дэпутат **Альберт Дабранскі** прапанаваў зачыніць камбінат кааператыўнай прамысловасці з-за таго, што ён не вытрымлівае канкурэнцыі. Абсталяванне можна перавесці ў іншыя раёны, прыкладам, у Мядзел ці Капыль.

Старшыня райсавета **Луцыя Арловіч** зазначыла, што на павышэнне якасці радашкоўскага хлеба выдаткавалі немалыя грошы. Яна прапанавала ў бліжэйшы час вызначыць колькасць завозу маладзечанскага і радашкоўскага хлеба ў кожную вёску для таго, каб у спажыўцоў быў выбар.

Пазней дэпутаты вернуцца да спраў на камбінаце кааператыўнай прамысловасці.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Раённы гандаль атрымаў ільготы

**МАЛАДЗЕЧНА. 50% падаткаў, якія прадпрыемствы раёна плацяць у інавацыйны фонд, цяпер застануцца ў раёне. Грошы прызначаныя на закупку абсталявання ў магазінах райспажыўтаварыства.**

Просьбу зрабіць падатковыя ільготы агучыў першы намеснік старшыні райвыканкома **Міхаіл Прыбалавец**. Старшыня Мінскага аблспажыўтаварыства **Кацярына Пратасевіч** абяцала садзеянне. Яна адзначыла, што Маладзечанскае райспажыўтаварыства мае найгоршыя паказчыкі ў Мінскай вобласці. Хаця з прыходам новага кіраўніцтва пазначылася некаторае паляпшэнне сітуацыі.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## 101-гадовы пажарны

**ВІЛЕЙКА. Жыхар вёскі Хадасы Міхаіл Уладыка нядаўна адсвяткаваў свой 101-ы дзень нараджэння. Яму не здрадзілі ні прыродная сіла, ні сялянская кемлівасць.**

Нядаўна ён гатаваў сабе ежу на газавай пліце. Нечакана на газавым балоне ўспыхнуў агонь. Доўгажыхар не разгубіўся, імгненна перарэзаў шланг, голымі рукамі выкаціў балон на вуліцу і патушыў полымя.

Калі на месца здарэння прыбылі пажарныя, іх дапамога ўжо не спатрэбілася. А апёкі аказаліся нязначнымі.

**Таццяна ХАРЛІНСКАЯ.**

 



■ ШАХМАТЫ

# Рэгіянальны турнір: змена лідэра

**МАЛАДЗЕЧНА. У майскай рэгіянальнай "тусоўцы" пераканаўчай перамогі дамогся Алег Дылеўскі. Крыху адстаў ад яго Віктар Акотчык, а трэцяе месца падзялілі прадстаўнікі старэйшага пакалення Міхаіл Дыдзік і Міхаіл Карачун.**

1 чэрвеня адбыўся першы летні этап. На лета прыехалі прадстаўнікі Вілейкі і Валожына. Хаця гасцям і не вельмі шанцавала ў гульні, усё ж, без прызавых яны не засталіся. Нават віляйчанін **Вадзім Кірыльчык**, які яўна няўдала імправізаваў, быў адзначаны спецыяльным прызам "за волю да перамогі". Таксама адзначылі спецыяльнымі прызамі **Мазахіра Абасава** – за лепшы фініш, і **Уладзіміра Бялова** – як самага дысцыплінаванага гульца, які паважае сябе і іншых гульцоў.

Верхнія радкі табліцы занялі Алег Дылеўскі і Міхаіл Дыдзік (ён прайграў толькі адну – апошнюю – партыю **Аляксею Мурзіну**, што дазволіла таму падняцца на чыстае трэцяе месца, а А. Дылеўскаму – нагнаць ветэрана).

Вось вынікі: 1–2 месцы – М. Дыдзік і А. Дылеўскі па 5 ачкоў, 3-е месца – А. Мурзін – 4 ачкі; 4–8 месцы падзялілі: **А. Кашкан** (Валожын), В. Акотчык, М. Карачун, У. Бялоў па 3,5 ачкі.

Пасля першага летняга этапа адбыліся змяненні ў зводнай табліцы турніраў.

Табліцу ўзначаліў А. Дылеўскі – 36 ачкоў, за ім па пятах ідзе В. Акотчык – 34 ачкі, трэці – М. Дыдзік – 24.

З усёй выніковай табліцай можна азнаёміцца ў нашым клубе: Маладзечна, вуліца Забэйды-Суміцкага, 2. Запрашаем усіх жадаючых на чарговы – ліпеньскі этап, які адбудзецца 6 ліпеня ў 17-30. Даведкі па тэл. у Маладзечне 71549, 54602. Для ўсіх навічкоў клуба, і ў асаблівасці для моладзі, спецыяльныя прызы – шахматная літаратура.

**Віталь КАЧАТКОЎ, майстар FIDE.**



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

**«Задуменныя вы нашы».**
**Здымак зроблены ў маладзечанскім шахматным клубе «Папараць» падчас аднаго з турніраў.**

■ ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

**10.06 Ведрыч-97 – Маладзечна-2000 1:2**

**Суддзя** – Ромін (Мінск)
**Склад**: Сцепановіч, Азаронак, Кабельскі, Бычкоўскі, Сысой (Багайчук, 50), Мігас, Карпіленка, Вільтоўскі, Тартоўскі (Макрыцкі, 15), Міхалёў (кап.), Турчыновіч (Дараховіч, 73)
**Запасныя**: Рубацкі, Смірноў
**Галы**: Турчыновіч (38, пас – Міхалёў), Макрыцкі (41, пас – Мігас); 75
**Папярэджанні**: 54; Азаронак (56), Дараховіч (82)
**Лепшы, па версіі "РГ"**, – Міхалёў.

На гульню ў Рэчыцу маладзечанцы паехалі без 2 гульцоў асноўнага складу. **Муравейнікаў** прапускаў гульню, а **Сідарэнка** зламаўся падчас трэніровак. Сюды яшчэ трэба дадаць **Макрыцкага**, які некаторы час хварэў. Такім чынам, месца ў асноўным складзе атрымалі **Карпіленка**, **Вільтоўскі**, **Тартоўскі**. Гаспадары адразу захапілі ініцыятыву, але рэалізаваць яе не ўдалося. Бадай, самы небяспечны момант быў каля варот **Сцепановіча** дзесьці ў сярэдзіне матча, калі **Долінаў** ледзьве не закруціў мяч з вуглавога ў блізкую дзевятку, перашкодзіла перакладзіна. Потым надышла чарга маладзечанцаў адказаць на небяспечныя паўмоманты "Ведрыча". **Міхалёў** вывеў сам-насам з варатаром Макрыцкага. Але ўскалыхнуць сетку за плячыма Мяркулава не ўдалося. Некалькі хвілін пазней Міхалёў адправіў на рандэву з Мяркулавым ужо Турчыновіча, які сваю справу ведае добра.

Другі тайм праходзіў у роўнай барацьбе. Гаспадары здолелі забіць гол пасля падачы вуглавога, але на большае іх не хапіла. Не было належнага ўзаемапаразумення, не ўсё атрымлівалася ў атацы. Магчыма, і не хапіла фізічнай падрыхтоўкі. А вось маладзечанцы мелі магчымасць забіць трэці гол. Макрыцкі ў барацьбе адабраў мяч і дакладным пасам вывеў мяч на ўдар Вільтоўскаму. На жаль, варатар быў на месцы.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ ФУТБОЛ

# Генадзь Лужынскі лічыць, што будзе вельмі цяжка. Асабліва галоўнай камандзе

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёлета стартаваў чэмпіянат дублёраў. Шмат было сказана пра плюсы і мінусы першынства. "Маладзечна" мае свой дубль, складзены, у асноўным, з футбалістаў 1981–84 гадоў нараджэння.**

Гэта значыць, што пры належнай падрыхтоўцы маладых футбалістаў маладзечанскі клуб у будучым будзе мець магчымасць выкарыстоўваць уласных выхаванцаў. Сваіх футбалістаў не трэба спачатку шукаць "на старане", а потым плаціць за гэта грошы. Ды і фанатам будзе прыемней сачыць за "землякамі". Дубль, лічу, – вялікі плюс першай камандзе. А вось меркаванне непасрэдна аднаго з дублёраў.

**Генадзь Лужынскі (нарадзіўся 19 красавіка 1983 года), левы паўабаронца. Палову міжсезоння трэніраваўся ў асноўным складзе, а мінулы сезон правёў у беразінскім "Металургу". Колькі матчаў згуляў за чысцінскую "Забудову".**

– Добра, што вярнуўся чэмпіянат другіх нумароў каманд. Ён мусіць узняць узровень беларускага першынства. Для моладзі гэта дадатковая гульнявая практыка, станаўленне характару сапраўднага футбаліста.

**– Але можна было гуляць у той жа "Забудове", набірацца досведу.**

– "Забудова" – гэта клуб, які мае некалькі іншы накірунак, чым дубль "Маладзечна". У чысцінцаў на кожны сезон ставіцца задача, і яе трэба выконваць. У гэтым выпадку не заўсёды маладыя перспектыўныя хлопцы здольныя мець пастаянную гульнявую практыку. А ўвогуле, не ў кожнай каманды вышэйшай лігі ёсць такая свая "Забудова" для падрыхтоўкі моладзі. Падрыхтоўка ж належных кадраў у Беларусі вельмі неабходная.

**– Ці "стрэліць" сёлета хто з дублёраў? Патрапіць у аснову ФК "Маладзечна"?**

– Калі браць тых, хто цяпер трэніруецца з дублем, я не ўпэўнены. Мы яшчэ не настолькі падрыхтаваныя, каб гуляць у вышэйшай лізе. У наступным, магчыма, хто і "стрэліць". Тыя, хто рыхтуюцца з асноўным складам і пакуль не трапляюць у асноўны склад, могуць.

**– Твой прагноз на выступленне маладзечанскіх каманд?**

– Дзве каманды абавязкова трапяць у дзесятку. Будзе вельмі цяжка, асабліва галоўнай, дзе ўсе клубы без выключэння будуць змагацца да апошняга. У нашай лізе таксама футбалісты ўсіх каманд будуць даказваць сваю моц і імкнуцца паказаць сябе. Калі не напаткаюць каманду якія-небудзь праблемы, клуб застанецца ў вышэйшай лізе, я ўпэўнены.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**



Фота Дзмітрыя ХАРЫТОНАВА.

**Генадзь Лужынскі адразу пасля фінальнага матча міні-футбольнага турніру ў «Беразінскае-2000». Школьнікі мястэчка, за якіх ён тады гуляў, выйшлі пераможцамі.**

## Табло

■ КАРАТЭ

МІНСК. Прайшло адкрытае першынство Беларускай асацыяцыі каратэ-до. 9 чалавек прадстаўлялі Вілейку, 7 з іх прыехалі з медалямі. Першыя месцы занялі **Аляксей Багдановіч і Андрэй Кулеш**; другія – **Ірына Барысава, Алена Шарафановіч і Ігар Мацюшэўскі**; трэція – **Наталля Вяжэвіч і Ягор Кузьмічоў**.

**Марыя МІХАЙЛАВА.**

■ ДУБЛЬ

**9.06 Ведрыч-97 – Маладзечна-2000 1:2**

**Галы**: 64; Відрук (6, пен.), Дараховіч (7).
**Склад**: Рубацкі, Дрозд, Відрук, Дараховіч (кап.), (Лабановіч, 62), Лужынскі, Лявончык, Смірноў, Макрыцкі, (Альховік, 46), Антановіч, Матусевіч, Млечка.

Памылкі абаронцаў гаспадароў далі магчымасць маладзечанцам ізноў адчуць, што такое перамога пасля 4 фіяска запар. Шмат дапамог **Аляксей Рубацкі**, які не даў Ведрычу рэалізаваць шматлікія небяспечныя моманты.

У турнірнай табліцы Маладзечна займае пасля 7 тураў 11 радок. Набрала 7 ачкоў.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ 2 ЛІГА

**Забудова – Змена (Мінск) 2:0**

**Галы**: Урублеўскі (26), Татун (78)
**Склад**: Андрэй Канапелька, Чумак, Дзяніс Мятліцкі, Алег Канапелька, Мікалай Мятліцкі, Балыкін, Міpановіч, Казлоўскі, Урублеўскі, Дзіковіч, Садчанка, Татун (46), Фалей (82).
Папярэджанні: М. Мятліцкі (36), Дз. Мятліцкі (67).

Зменаўцы вымушаныя былі зноў прайграць, ужо ў 9-ы раз. Гаспадары не выкарысталі шмат момантаў. Хаця нельга сказаць, што яны цалкам валодалі ініцыятывай. **Міpановіч** добра раздаваў пасы, 2 з іх знайшлі сваё лагічнае завяршэнне. У сярэдзіне 1 тайма **Урублеўскі**, а напрыканцы **Татун** дакладнымі ўдарамі прынеслі камандзе чарговыя 3 ачкі.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

**Смаргонь – Вейна (Магілёў)**

**СМАРГОНЬ. Шматлікія балельшчыкі ў нядзелю футбол не ўбачылі. Госці не прыехалі, смаргонцам будзе прысуджаная тэхнічная перамога.**

Але, напэўна, ачкоў гэта не прынясе. "Вейна" дапусціла другую няяўку на гульню ў гасцях. І каманду, хутчэй за ўсё, здымуць са спаборніцтваў, а вынікі згуляных матчаў будуць ануляваныя. Футбалісты "Смаргоні" падзякавалі сваім балельшчыкам і адправіліся ў раздзявальню.

**Мікіта ЛІСТАПАД.**

■ ФУТБОЛПРАГНОЗ

# Павел Касцянкоў – чэмпіён МЛФП

**МАЛАДЗЕЧНА. Завяршыўся пяты чэмпіянат Маладзечанскай Лігі Футболпрагнозу (МЛФП).**

Чэмпіянам упершыню стаў выпускнік САШМ Павел Касцянкоў. Па ходзе чэмпіянату каманда ФК Казіно ішла ў "тройцы". Па-чэмпіёнску Павел правёў канцоўку: за 5 тураў да фінішу адрыў ад другога месца быў 2 ачкі, а на фінішы – 11.

Другім стаў леташні чэмпіён Аляксандр Полаз, а трэцім – дэбютант спаборніцтваў Генадзь Шурпік. Ён самы старэйшы з усіх удзельнікаў чэмпіянату (1956 г. н.).

| | Г | Пм | Н | Пж | Р/М | З | А |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. ФК Казіно (П. Касцянкоў) | 34 | 22 | 2 | 10 | 61–39 | 156 | 68 |
| 2. Мідлсбро (А. Полаз) | 34 | 16 | 9 | 9 | 54–41 | 164 | 57 |
| 3. Тартак (Г. Шурпік) | 34 | 18 | 3 | 13 | 60–50 | 146 | 57 |
| 4. Арсенал (Я. Дзюндзін) | 34 | 16 | 8 | 10 | 60–45 | 156 | 56 |
| 5. Фартуна (Д. Альфер) | 34 | 16 | 7 | 11 | 55–52 | 158 | 55 |
| 6. Метэор (В. Лужынскі) | 34 | 15 | 8 | 11 | 57–56 | 147 | 53 |
| 7. Бессэнсоўнасць (Ю. Карпіцкі) | 34 | 14 | 8 | 12 | 48–40 | 146 | 50 |
| 8. Лестэр (Ю. Русак) | 34 | 15 | 4 | 15 | 48–54 | 150 | 49 |
| 9. ФК Рэал (С. Ярук) | 34 | 14 | 6 | 14 | 40–43 | 156 | 48 |
| 10. ХІК (В. Цэлікаў) | 34 | 13 | 9 | 12 | 44–48 | 148 | 48 |
| 11. ДэЦл (А. Сярболін) | 34 | 9 | 16 | 9 | 51–52 | 142 | 43 |
| 12. Ювентус (С. Камінскі) | 34 | 12 | 5 | 17 | 45–57 | 143 | 41 |
| 13. Інтэр (А. Рудовіч) | 34 | 10 | 9 | 15 | 50–57 | 144 | 39 |
| 14. ФК Шаман (М. Драздовіч) | 34 | 8 | 14 | 12 | 55–60 | 131 | 38 |
| 15. ФК 1978 (У. Лазучонак) | 34 | 9 | 11 | 14 | 52–57 | 134 | 38 |
| 16. Балтыка (Д. Барысевіч) | 34 | 9 | 10 | 15 | 48–51 | 121 | 37 |
| 17. ЦёмБА (А. Блоцкі) | 34 | 9 | 8 | 17 | 46–55 | 118 | 35 |
| 18. Спартак (В. Бладыка) | 34 | 7 | 9 | 18 | 42–58 | 114 | 30 |

Ранейшымі чэмпіёнамі былі Сяргей Вярбіцкі, Іван Русовіч і Алег Гаруновіч. Уладальнікам Кубка МЛФП сёлета стаў Аляксандр Рудовіч (Інтэр), які ў фінале перамог Мікалая Драздовіча (ФК Шаман) з лікам 3:2. Уладальнік Кубка, чэмпіён і прызёры падзялілі прызавы фонд сезона.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## На гэтым тыдні гуляюць

**16.06 Змена (Мінск) – Смаргонь**
**16.06 СКАФ (Мінск) – Забудова**
+3=3-0 12-4. Летась 2:2 дома і 5:1 на выездзе.
**20.06 Забудова – Баранавічы**
**20.06 Смаргонь – СКАФ (Мінск)**
+2=2-2 6-9. Летась 1:0 дома і 0:1 на выездзе.
**20.06 Дубль: Тарпеда-МАЗ (Мінск) – Маладзечна-2000**
**21.06 Тарпеда-МАЗ (Мінск) – Маладзечна-2000**
+2=9-5 15-16. Апошні матч 31.08.99 Маладзечна – Тарпеда-МАЗ 2:2 (Вайтовіч, Макрыцкі).

